**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.
**Выдаецца са снежня 1994 года**
**№ 50 (871) 15 снежня 2016 года.**
**Кошт свабодны.**



**Штотыднёвая газета**

# Вольнае Глыбокае

vglybokaye@tut.by



# Павел Севярынец: на Глыбоччыне да 100-годдзя Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі варта ўшанаваць памяць Паўла Карузы і Міхала Пятроўскага



**У мінулую пятніцу, 10 снежня, у Глыбокім, у сяброўскім коле, адбылася сустрэча Паўла Севярынца, палітыка, журналіста, сустаршыні аргкамітэту па адраджэнні партыі Беларускай хрысціянскай дэмакратыі з мясцовымі грамадскімі актывістамі. На сустрэчы прысутнічаў акцёр і рэжысёр Аляксей Туровіч, які паходзіць з Глыбокага. Сустрэча была прысвечаная маючаму адбыцца ў 2017 годзе 100-годдзю Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі.** Працяг тэмы на стар. 11. *Фота Ул. Скрабатуна.*



# Жыхарка Паставаў уцягнула 12-гадовую дзяўчынку ў занятак прастытуцыяй

**Жыхарка Паставаў абвінавачваецца ва ўцягванні ў прастытуцыю дзяўчат, у тым ліку непаўналетніх.**

48-гадовая жыхарка Паставаў, якая мае некалькі судзімасцяў, ад чэрвеня 2014 года да мая 2016 года ўцягнула ў занятак прастытуцыяй 7 дзяўчат, сярод якіх адна была непаўналетняй.

Пасляяназнайшлаўгэтай сферы яшчэ трох дзяўчат, сярод якіх была дванаццацігадовая, і арганізоўвала для іх сустрэчы з кліентамі. Частка грошай, якія яны зараблялі, абвінавачаная забірала сабе.

Абвінавачаная пагражала дзяўчатам расправай, калі тыя не хацелі выконваць сваю працу.

Дзеянні жанчыны былі кваліфікаваныя па ч.2 ст.171-1 і ч.2 арт.171 КК Беларусі. На дадзены момант абвінавачаная ўзята пад варту. Справа ў хуткім часе будзе разгледжана ў судзе.

*БелТА.*



ISSN 2077-8023



## Бешанковіцкі раён

# Разам да навейшых тэхналогій

■ Чэслаў Якубовіч.

**Вельмі насычаным і плённым аказаўся нядаўні афіцыйны візіт у нашу краіну прэм'ер-міністра Славакіі, дзе абедзве дзяржавы дамовіліся сумесна выrабляць інавацыйную высокатэхналагічную прадукцыю для знешніх рынкаў**. Пасля інтэнсіўных перамоў у беларускай сталіцы высокі госць прыбыў у райцэнтр Бешанковічы пабачыць, як тут у фірме "Націвіта" пачаў ажыццяўляцца сумесны праект у сферы фармацэўтыкі. Ён накіраваны на вытворчасць біятэхналагічных прэпаратаў для лячэння ракавых захворванняў. У гэтай працы фармацэўтам будуць дапамагаць і вучоныя медуніверсітэтаў Віцебска і Браціславы, якія падпісалі дагавор аб супрацоўніцтве. Кіраўніцтва новай кампаніі з Бешанковіч атрымала запрашэнне наведаць Славакію для ўдзелу ў пасяджэнні сумеснай навукова-тэхнічнай камісіі па развіцці і супрацоўніцтве. Партнёры дамовіліся да 2020 года асвоіць выпуск больш 40 найменняў лякарстваў супраць раку і давесці штогадовы аб'ём іх продаж да 100 млн. еўра, выйсці з гэтай прадукцыяй на рынкі не толькі ЕАЭС, але і Чэхіі, Венгрыі, Польшчы. У гэтым накірунку беларусы будуць праводзіць сумесныя клінічныя выпрабаванні, узаемадзейнічаць з вядучымі славацкімі фармацэўтамі і іх навукова-даследчым цэнтрам інавацый і біятэхналогій. Сумесна прасунуцца наперад у гэтым накірунку будзе яшчэ прасцей. Глава Віцебшчыны М. Шарстнёў і кіраўнік урада Славакіі Р. Фіцо пацвердзілі, што віцебскі радыёзавод "Маналіт" і славацкая фірма "ВОМАТ" сумесна займуцца перапрацоўкай электрабытавых і электратэхнічных адходаў у нашай краіне.

## Глыбоцкі раён

# На дарогах, як на вайне

■ Станіслаў Раманчук.

**Даволі сур'ёзны ўсплеск аварыйнасці з трагічнымі наступствамі зафіксаваны сёлета на дарогах Віцебшчыны.**

У гэту жудасную статыстыку патрапіў і Глыбоцкі раён, дзе днямі на ажыўленай заўсёды трасе з Полацка да райцэнтра адбылася чарговая бяда. З наступленнем зімовых халадоў і першых снегападаў не ўсе вадзіцелі ўлічваюць асаблівасці слізкіх дарог, захоўваюць асцярожнасць, хоць і сталі ездзіць на зімовых калёсах. Вось і малады 28-гадовы кіроўца "Audi-80" на 75-м кіламетры трасы раніцай залішне разагнаўся, не справіўся з кіраваннем і зляцеў у кювет. Разам са сваёй жонкай-пасажырам праз некалькі хвілін пасля здарэння яны выйшлі з іншамаркі паглядзець, што адбылося. На жаль, менавіта ў гэты момант сюды ж у кювет зляцела яшчэ адна машына "Renault Scenic" і сваёй масай абрынулася на сямейную пару. Ад такога страшнага ўдару шанцаў выжыць у маладой жанчыны практычна не было і яна загінула на месцы аварыі. Крыху болей пашчасціла яе мужу, якога з цяжкімі траўмамі на машыне "хуткай дапамогі" даставілі медыкі ў рэанімацыйнае аддзяленне мясцовай райбальніцы. Эксперты неўзабаве высвятляць усе абставіны гэтага здарэння, у якім так недарэчна абарвалася чалавечае жыццё. Увогуле цяпер на дарогах рэгіёна прыбавілася не толькі машын, але і аварый, бо ў вобласці ў студзені-кастрычніку загінула на трасах 75 жыхароў і яшчэ 380 былі паранены. Насцярожвае, што 35 кіроўцаў уцяклі з месцаў ДТЗ, а яшчэ звыш 2600 вадзіцеляў селі за руль на-падпітку, з якіх - 142 паўторна на працягу года.

## Пастаўскі раён

# Памяць дзеля прымірэння

■ Кастусь Александровіч

**У гісторыі чалавецтва Першая сусветная вайна застанецца як адна з самых чорных старонак занадта крывавага ХХ стагоддзя**.

Падчас тых падзей з восені 1915 да лютага 1918 года лінія руска-нямецкага фронту праходзіла каля Пастаў, а акопы і бліндажы дагэтуль можна ўбачыць у мясцовых лясах. У раёне старающа захаваць памяць пра тыя падзеі, выдатную экспазіцыю пра ў многім забытую вайну стварылі ў філіяле раённага краязнаўчага музея ў Палацы Тызенгаўза, адкуль і стартаваў другі па ліку аўтапрабег, прымеркаваны да Дня прымірэння і памяці шматлікіх ахвяр сусветнай бойні народаў. Але спачатку больш 50 яго ўдзельнікаў прадстаўнікоў грамадскасці, мясцовых улад, духавенства, навукоўцаў, краязнаўцаў пазнаёміліся з фотавыставай Андрэя Мацура "Нябачныя помнікі вайны". Ён, дарэчы, узначальвае мясцовы валанцёрскі клуб "Заходні рубеж". Яго актывісты з Юнькаўскай базавай школы сёлета ў вёсцы Перавознікі знайшлі новае месца масавых пахаванняў загінуўшых воінаў. На гэтых могілках з'явіўся крыж і памятная дошка, валанцёры склалі спіс ахвяр страшнай вайны, бо там месціўся штаб II Сібірскай стралковай дывізіі, якая панесла страшныя страты: тут палеглі 55 афіцэраў і 5200 салдат і стралкоў. Сюды першым прыбыў мотапрабег, месца вечнага спачыну асвяціў святар, былі ўскладзены вянкі і лампадкі. Даніну павагі загінулым воінам па былой лініі фронту аддалі потым таксама ў вёсках Вялікая Вольса, Норкавічы, Ярэва, Свілелі, Вілейты і Мікулішкі, дзе да мінулага года ніхто не ведаў пра масавыя пахаванні радамі нямецкіх ваенных і па суседстве пра такія ж забытыя магілы расійскіх салдат.

# Аб самым надзёным

## УЖО МНОГІЯ НЕ ХОЧУЦЬ МЕЦЬ 500 USD, БО ДОБРА ВЕДАЮЦЬ, ДА ЧАГО ПОТЫМ ДАВОДЗЯЦЬ ТАКІЯ "ДУТЫЯ" ЗАРПЛАТЫ




■ Аляксандр Цішкевіч.

**Падстаў для таго, што краіна зноў зможа падняць зарплаты да 500 долараў, практычна няма, бо не тая цяпер сітуацыя ў той жа Расіі ды і цэны на нафтапрадукты, тыя ж калійныя ўгнаенні на сусветным рынку ўпалі. Так адчувальна павысіць заробкі ў нас можна толькі за кошт друкаванага станка, аднак гэта імгненна падарве здароўе фінансава-крэдытнай сістэмы.**

Напрыканцы восені сёлета раптам высветлілася, што ў кіраўніцтва краіны не хапае свежых неардынарных ідэй для таго, каб эфэктыўней вырашаць існуючыя ў Беларусі праблемы. Невыпадкова А. Лукашэнка запатрабаваў ад сваёй Адміністрацыі і яе главы А. Косінца прынцыпова змяніць стыль дзейнасці, больш плённа працаваць з кадрамі, бо наспела пытанне амаладжэння чыноўнікаў, а таксама скарачэння колькасці (гавораць нават напалову) дзяржслужачых апарата кіравання ад Мінска да ўскраін. Неўзабаве пасля рабочай нарады па гэтым пытанні беларускі лідар пабываў на сваёй малой радзіме, а потым ужо ў Магілёве зноў паабяцаў суайчыннікам выйсці ў наступным годзе на ўзровень сярэдняй зарплаты ў памеры 500 долараў.

Дарэчы, да гэтай асноўнай задачы наступнага года кіраўнік дзяржавы на тым тыдні звярнуўся двойчы. Ён падчас працяглай прэс-канферэнцыі для ўдзельнікаў традыцыйнага прэс-тура з РФ у Беларусь заявіў у сваім стылі: " в 2017 году – умереть, но надо выйти на 500 долларов… Я буду делать всё для того, чтобы мы вышли на 500". Прэзідэнта з аднаго боку можна зразумець, паколькі пры цяперашніх высокіх цэнах народ жыве параўнальна бедна. Людзі стаміліся, рэальныя даходы насельніцтва працягваюць падаць амаль 2 гады запар, большасць з нас зараз зарабляюць у сярэднім столькі, колькі атрымоўвалі 9 гадоў назад. Дасведчаныя эканамісты заяўляюць, што цяперашні ўзровень зарплат беларусаў адпавядае ўзроўню малаканкурэнтназдольнай айчыннай эканомікі.

Праўда, сёлета беларускі лідар, ставячы такую няпростую задачу, ужо не казаў выканаць яе "кроў из носа", як раней, а ўвязаў новы рубеж з абавязковым ростам прадукцыйнасці працы. Цікава, што ні перад апошнімі прэзідэнцкімі выбарамі, ні сёлета на чарговым Усебеларускім сходзе ніякіх канкрэтных сум даходаў суайчыннікаў у замежнай валюце не агучвалася і раптам такі круты разварот. Не забылася, што ў мінулым ставіліся ў Беларусі задачы за пяцігодку дасягнуць узроўню цяперашніх заробкаў тых жа суседзяў-палякаў, дзе за Бугам рэальна зарабляюць па 1000 і болей долараў у месяц. На справе выйшла кепска, цяпер зарплаты ў нас меней 400 USD.

Да таго ж крызіс у эканоміцы адчуваецца, сітуацыя няпростая. З саюзніцай і важнейшым гандлёвым партнёрам Расіяй на працягу года быў шэраг сур'ёзных непаразуменняў, ВУП краіны зменшыўся, перамовы па крэдыту з МВФ зацягваюцца. Шчыра кажучы, мне самому стала крыху трывожна пасля заяў аб 500 доларах, бо такая рыторыка нічога добрага па-сутнасці не абяцае. Вельмі многім з нас памятаецца, што было ў Беларусі ў пачатку 2011 года з далейшым шалёным ростам цэн (гіперінфляцыя тады дасягнула 109 %), калі шмат было надрукавана пустых грошай, а нацвалюта перажыла найбольшую дэвальвацыю. Няўжо і зараз паспрабуем наступіць на адны і тыя ж граблі?

Узяты курс на фарсіраваны рост заробкаў без уліку эканамічных рэалій да дабра не давядзе. Гаварыць і ставіць папуліцкія задачы можна, аднак адной гаварыльняй сыты не будзеш, светлай будучыні не дачакаешся асабліва цяпер, калі нават ва ўрадзе Беларусі пачалі рыхтавацца да ўсплеску росту беспрацоўя. Як паказвае вопыт навейшай гісторыі, стаўка на камандныя метады ўпраўлення сябе не апраўдвае. У Беларусі як толькі пачынаюць такое рабіць штучным шляхам, неўзабаве чакай потым балючы аблом. Беларускую прадукцыю становіцца цяжка прадаць, узнікаюць перакосы з плацежным і гандлёвым балансам, а з імкненне жыць не па сродках потым расплачваемся інфляцыяй і дэвальвацыяй нацвалюты.

Падстаў для таго, што краіна зноў зможа падняць зарплаты да 500 долараў, практычна няма, бо не тая цяпер сітуацыя ў той жа Расіі ды і цэны на нафтапрадукты, тыя ж калійныя ўгнаенні на сусветным рынку ўпалі. Так адчувальна павысіць заробкі ў нас можна толькі за кошт друкаванага станка, аднак гэта імгненна падарве здароўе фінансава-крэдытнай сістэмы. Каб беларуская эканоміка ажыла, патрабуюцца не тэты ўказанні, а наспеўшыя рэформы і яшчэ вялізныя замежныя інвестыцыі. Эканамічнымі метадамі выйсці за кароткі перыяд на новы ўзровень даходаў беларусаў не атрымаецца, за нажым у гэты няпросты час эканоміка можа балюча адпомсціць.

Не пра 500 долараў, як падаецца, кіраўніцтва краіны і ўпраўленцы на месцах з глыбінкі павінны зараз думаць. Наспеў час вырашаць, што рабіць з тысячамі стратных неэфектыўных прадпрыемстваў (іх цяпер у прамысловасці 30 %, а на вёсцы нават 40 %), якія з іх, найбольш важныя, пастарацца захаваць. А вось маёмасць яўных банкрутаў, іх станкі, абсталяванне і будынкі можа трэба хутчэй прадаваць, калі будзе попыт. Увогуле кожнаму з нас патрэбна зразумець, што пройдзе яшчэ некалькі гадоў, калі беларуская эканоміка выйдзе з рэцэсіі. І адбудзецца гэта не раней, чым праз 3-4 гады, а пакуль хочаш-не хочаш, прыйдзецца жыць больш сціпла, па сродках і разлічваць найперш толькі на свае сілы і здольнасці.

### Надвор'е ў Глыбокім

www. rp5ru

| | Чацвер 15.12.16 | | | | Пятніца 16.12.16 | | | | Субота 17.12.16 | | | | Нядзеля 18.12.16 | | | | Пан. 19.12. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | -4 | -7 | -6 | -8 | -7 | -4 | -2 | -2 | -3 | -2 | -2 | -2 | -2 | -2 | -1 | -1 | 0 | 0 | -1 |
| Ціск | 752 | 756 | 759 | 758 | 759 | 757 | 757 | 757 | 758 | 758 | 758 | 757 | 757 | 755 | 751 | 747 | 744 | 745 | 749 |
| Вецер м/сек | 6 Пн-У | 4 Пн-У | 1 Пн | 3 З | 5 Пд-З | 4 З | 4 З | 4 Пн-З | 5 Пн-З | 4 Пн-З | 4 З | 4 З | 3 З | 5 З | 6 З | 6 З | 6 З | 6 Пн-З | 6 Пн |
| Вільготнасць | 91 | 93 | 74 | 88 | 94 | 100 | 93 | 93 | 96 | 97 | 93 | 94 | 96 | 100 | 94 | 96 | 100 | 97 | 91 |

## Дзень за днём

**Напрыканцы года ў Беларусі паскорыўся рост цэн. Большасць экспертаў сумняваюцца, што ў наступным годзе Беларусь дасягне ўзроўню сярэдніх зарплат на ўзроўні 500 USD. Інфляцыя за студзень-кастрычнік дасягнула 11 %. "Белнафтахім" папярэдзіў аб павышэнні цэн на паліва. Ужо 348 гаспадарак краіны (24 % ад усёй колькасці) сталі стратнымі. У Беларусі ўпершыню правялі трансплантацыю хвораму комплексу сэрца-лёгкія. Беларус Алег Навіцкі зноў адправіўся ў космас у складзе міжнароднага экіпажа. Ва ўсіх рэгіёнах краіны, акрамя Мінска, скарацілася колькасць насельніцтва, найбольш – на Віцебшчыне.**

# Важнейшыя навіны свету

**Расія.** Па распараджэнні У. Пуціна РФ тэрмінова адмовілася ад членства ў Міжнародным крымінальным судзе, калі там сталі лічыць анексію Крыма ваенным злачынствам.

**Сірыя.** Падчас заходу на пасадку на авіяносец "Адмірал Кузняцоў" пацярпеў катастрофу і затануў расійскі самалёт-знішчальнік МіГ-29 КР, але лётчык паспеў выратавацца.

**Славакія.** Напярэдадні саміта Украіна-ЕС пасол Пётр Яворчык пацвердзіў, што Еўрасаюз зацвердзіў ўмоўна ўвядзенне бязвізавага рэжыму паездак для ўкраінскіх грамадзян.

**Расія.** Арышт ноччу аднаго з ключавых міністраў эканамічнага развіцця РФ А. Улюкаева нібыта за хабар стаў ударам па ліберальным крыле ўрада, за ім сачылі ў ФСБ цэлы год.

**Егіпет.** Касацыйны суд краіны адмяніў смяротны прыгавор былому прэзідэнту М. Мурсі і прызначыў паўторныя слуханні па ягонай справе датычнасці да масавых забойстваў.

**Украіна.** Першы віцэ-спікер парламента І. Геращчанка назвала ўдарам "нажом у спіну" спробу Беларусі заблакіраваць рэзалюцыю па Крыму Генасамблеі ААН.

**Малдова.** Новы прэзідэнт І. Дадон пацвердзіў, што будзе дабівацца датэрміновых парламенцкіх выбараў, бо паўнамоцтвы абмежаваныя, а ўрад не падзяляе яго погляды.

**Расія.** Кіраўнік Цэнтра эканамічных і палітычных рэформ РФ М. Міронаў заявіў, што наіўна думаць быццам Д. Трамп выведзе краіну з крызісу з-за праводзімай палітыкі ўлад.

**Францыя.** Навуковы супрацоўнік Парыжскага інстытута палітычных даследванняў Г. Лаган назваў пераемнікамі Пуціна на чале РФ Д. Мядзведзева, А. Дзюміна, М. Патрушава

**Літва.** Камісія па тэле- і радыёвяшчанні (ЛКТРВ) спыніла на 3 месяцы вяшчанне на тэрыторыі краіны тэлеканала "РТР Планета" за падбухторванне да вайны, варожасці.

**Расія.** Пасля 2-х тыдняў эксплуатацыі на Нававаронежскай АЭС раптам адключыўся 6 энергаблок, трывожыць, што ў Беларусі станцыя будуецца па аналагічным праекце.

**Польшча.** Парламент краіны прыняў закон аб зніжэнні пенсійнага ўзросту для палякаў з 67 гадоў да 60 – для жанчын, мужчыны змогуць выходзіць на адпачынак у 65 гадоў.

**Швейцарыя.** Глава МАК Т. Бах заявіў, што выдзеляць сродкі на стварэнне сусветнай поўнасцю празрыстай і незалежнай антыдопінгавай сістэмы міжнароднага спорту.

**Расія.** Палітолаг А. Калеснікаў заявіў, што пасля Крыма ў РФ усё дазволена, такія дзеянні, як арышт Улюкаева, патрэбны плебсу, бо чым меней хлеба, тым болей трэба відовішчаў.

**Перу.** Спецслужбы ЗША разам з перуанскімі калегамі ў ходзе сумеснай аперацыі канфіскавалі буйнейшую ў гісторыі партыю фальшывых 30 млн. $ і 50 тысяч еўра.

*Служба інфармацыі "ВГ"(па звестках інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

# Першыя «альтэрнатыўшчыкі» приступілі да праходжання службы



■ Кар. БЕЛТА

**Першыя «альтэрнатыўшчыкі» приступілі да праходжання службы з 2 снежня бягучага года. Пра гэта паведамілі БЕЛТА ў прэс-службе Міністэрства працы і сацыяльнай абароны.**

«З 1 ліпеня 2016 года ўступіў у сілу закон Рэспублікі Беларусь «Аб альтэрнатыўнай службе». Па стане на 8 снежня бягучага года Міністэрствам працы і сацыяльнай абароны ў адпаведнасці з арт.18 закона ў дачыненні да 55 грамадзян вызначаны арганізацыі, у якіх яны будуць праходзіць альтэрнатыўную службу», - праінфармавалі ў міністэрстве. Найбольшая колькасць рашэнняў у дачыненні да грамадзян, якім ваеннымі камісарыятамі заменена воінская служба на альтэрнатыўную, паступіла з Віцебскай вобласці - 19 чалавек. У Гродзенскай вобласці гэта 14 чалавек, Гомельскай - 8, Брэсцкай - 7, Мінскай - 4, Магілёўскай - 2, Мінску - 1. Для праходжання альтэрнатыўнай службы вызначаны ўстановы аховы здароўя, сацыяльнай сферы, а таксама арганізацыі жыллёва-камунальнай, сельскай і лясной гаспадаркі. Тэрміны альтэрнатыўнай службы складаюць для грамадзян, якія не маюць вышэйшай адукацыі, 36 месяцаў, для грамадзян з вышэйшай адукацыяй - 24 месяцы. Для грамадзян, якія праходзяць альтэрнатыўную службу, у адпаведнасці з заканадаўствам прадугледжана забеспячэнне праязнымі дакументамі для накіравання да месца праходжання службы і да месца жыхарства пасля звальнення з альтэрнатыўнай службы, выплата штомесячнае грашовае забеспячэнне ў памеры 150% найбольшай велічыні бюджэту пражытачнага мінімуму ў сярэднім на душу насельніцтва, зацверджанага Мінпрацы і сацабароны, за два апошнія кварталы. «На сёння памер грашовага ўтрымання складае Br263,25, - адзначылі ў прэс-службе. - Акрамя таго, з 13-га месяца альтэрнатыўнай службы памер штомесячнага грашовага забеспячэння павышаецца на 20% бюджэту пражытковага мінімуму, а з 25-га месяца - на 40 % бюджэту пражытковага мінімуму «Акрамя таго, прадугледжана прадастаўленне памяшкання для пражывання, а таксама вызваленне ад платы за карыстанне прадастаўленым на перыяд праходжання альтэрнатыўнай службы памяшканнем і за жыллёва-камунальныя паслугі. Грамадзянам будуць прадастаўлены бяспечныя ўмовы праходжання альтэрнатыўнай службы, а таксама права выезду за межы адміністрацыйна-тэрытарыяльнай адзінкі, на тэрыторыі якой размешчана арганізацыя, па папярэднім пісьмовым інфармаванні кіраўніка арганізацыі, у якой грамадзянін праходзіць альтэрнатыўную службу.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Доктар эканамічных навук, прафесар Б. Жэліба папярэдзіў, што беларусаў чакае яшчэ большае падзенне рэальных зарплат, а 500 $ зарплаты – нерэальна, гэта ўтопія.

**Астравец.** У сувязі з заменай корпуса рэактара, як заявіў віцэ-прэм'ер урада У. Сямашка, увод першага энергаблока Беларускай АЭС адкладваецца на год, не раней 2019 года.

**Брэст.** Глава Рассельгаснагляду С. Данкверт пагрозіў магчымымі праблемамі на рынку РФ прадукцыі "Савушкава прадукта", бо закупляюць да 100 тыс. тон малака ў Польшчы.

**Мінск**. Ніякіх рэсурсаў, як заявіў дырэктар Даследчага цэнтра ІПМ А. Чубрык, каб павышаць даходы насельніцтва, у дзяржавы сёння няма, бо значныя выплаты па даўгах.

**Бабруйск.** Па падазрэнні ў неадназаровым атрыманні хабару у буйных памерах КДБ з міліцыяй затрымалі 46-гадовага старшыню мясцовага гарвыканкама А. Каваленку.

**Салігорск.** Падчас рамонтных работ няспраўны горнай тэхнікі ў шахце ААТ "Беларуськалій" трагічна загінуў 22-гадовы машыніст горна-выемачных работ.

**Магілёў.** Эканаміст У. Кавалкін заявіў, што агучаную ідэю аб 500 USD зарплаты, хутчэй усяго, чыноўнікі праігнаруюць, ведаючы аб сумным вопыце друкавання пустых грошай.

**Мінск.** Да дня нараджэння лаўрэата Нобелеўскай прэміі С. Алексіевіч у маі 2017 года ў выдавецтве "Логвінаў" выйдзе пяцітомнік яе твораў у перакладзе на беларускай мове.

**Маладзечна.** Намеснік міністра адукацыі Беларусі Р. Сідарэнка пацвердзіла, што да 14 год прыцягваць школьнікаў на сельгасработы нельга, гэта забараняе Кодэкс аб адукацыі.

*Пінск.* Адзін за другім скончылі жыццё самагубствам праз павешанне ва ўласных гаражах пенсіянеры ва ўзросце 63 і 65 гадоў у вёсцы Купяцічы, а потым – у райцэнтры.

**Мінск.** У гандлёвым цэнтры "Гіпа" адкрыўся супермаркет канкурэнта "Ikea"" дацкай гандлёвай сеткі "JYSK" тавараў для дома і мэблі плошчай 2300 кв. метраў.

**Гомель.** Па суседстве з гіпермаркетам "Гіпа" адкрыўся другі ў горадзе і 15-ы па ліку гіпермаркет фінскай сеткі будматэрыялаў "ОМА" плошчай 7500 кв. метраў.

**Брэст.** Супрацоўнікі ДАІ знайшлі 59-гадовага кіроўцу, які раніцай збіў школьніцу на пешаходным пераходзе і пакінуў месца ДТЗ, калі яна сказала, што з ёй усё добра.

**Зельва.** У старой бацькоўскай хаце на хутары вечарам пасварыліся на падпітку два родныя браты-пенсіянеры з райцэнтра ва ўзросце 69 і 60 гадоў і старэйшы забіў маладзейшага.

**Дразды**. А. Лукашэнка пацвердзіў расійскім СМІ што ў яго рэзідэнцыі шмат птушкі і дамашніх жывёл: 25 гусей, 20 кролікаў, 15 авечак, па 10 кароў і коз, 7 коней, 4 сабакі.

*Служба інфармацыі "ВГ"(па звестках інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** За несвоечасовую выплату зарплаты пракуроры гарадоў і раёнаў пакаралі ўжо 250 службовых асоб, у пачатку восені не разлічыліся з людзьмі больш 100 арганізацый.

**Глыбокае.** Айчынны інвестар набыў на аўкцыёне комплекс будынкаў і абсталяванне былога кансервавага завода "Купцовъ" і адновіць выпуск кансервіраванага гарошка.

**Паставы.** Буйную партыю мэблі для кафэ і бараў адгрузіў Варапаеўскі ДАК у Краснадар, адкуль атрымалі новы заказ, адна з фірм Германіі заказала прадукцыі на 0,5 млн. еўра.

**Наваполацк.** У горадзе ўрачыста адкрылі новую пачатковую школу, філіял гімназіі № 1, яна ўваходзіць ва ўнікальны вучэбна-педагагічны комплекс з яслямі-садам на 294 месцы.

**Чашнікі.** Фонд "Віцебскаблмаёмасць" па конкурсе прадаставіў фірме з Мінска стварыць на базе мясцовага спіртзавода новае прадпрыемства і правесці яго мадэрнізацыю.

**Верхнядзвінск.** На свінакомплексе ААТ "Шайцерава" не толькі пераадолелі наступствы АЧС свіней, аднавілі, але і павялічылі восенню пагалоўе на 6 тысяч свіней.

**Віцебск.** З абласнога зборнага пункта на ваенную службу адправілі восенню амаль 1400 прызыўнікоў і 200 рэзервістаў, а 11 хлопцаў прынялі на альтэрнатыўную службу.

**Мёры.** На бацькоўскім сходзе ў былой СШ № 1, цяпер базавай школе паведамілі, што з 1 верасня 2017 года яе могуць закрыць, як зачынілі 15 школ за апошнія 10 гадоў.

**Докшыцы.** Многіх жыхароў раёна засмуціла, што філіял "Докшыцырайгаз" перастаў дастаўляць абанентам звадкаваны газ у балонах па суботах, на сяло возяць раз на тыдзень.

**Віцебск.** Для сваіх работнікаў мясцовая бройлерная фабрыка пабудавала ў вёсцы Курына гаспадарчым спосабам за два гады новы 12-кватэрны жылы дом.

**Гарадок.** У цяжкім стане даставілі ў райбальніцу з пераахаладжэннем арганізма 36-гадовага беспрацоўнага рыбака з Віцебска, які праваліўся пад тонкі лёд і ледзь не загінуў.

**Полацк.** Па гарачых слядах міліцыя выявіла 49-гадовую беспрацоўную, якая раніцай у прыёмным пакоі грабальніцы выцягнула з курткі 35-гадовага гараджаніна 100 рублёў.

**Браслаў.** У суботу днём ля магазіна "Еўраопт" зноў адбылося ДТЗ з удзелам трох легкавых аўтамабіляў, аднак, па іроніі лёсу, іншамарка вінoўніка аварыі не пацярпела.

**Віцебск.** Адзіны беларускі чэмпіён Алімпіяды ў Рыа-дэ-Жанейра У. Ганчароў прызнаўся, што яму асабліва падабаецца характар беларусаў, яны не такія нахабныя, як рускія.

**Орша.** Да 2-х гадоў турмы пагражае 23-гадоваму моцна разлаванаму вяскоўцу, які пасярод ночы забіў брахаўшага сабаку суседзяў і пагражаў забіць і яго гаспадароў.

*Служба інфармацыі "ВГ" (па звестках інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

# “Развіццё патэнцыялу сельскіх тэрыторый Докшыцкага раёна”

**Праект ЕС/ПРААН “Садзейнічанне развіццю на мясцовым узроўні ў Рэспубліцы Беларусь”. Ініцыятыва Міжнароднага экалагічнага грамадскага аб’яднання “Прырода і мы”.**



**У Тумілавічах, у школьным садзе, усталявана адкрытая альтанка для правядзення заняткаў са школьнікамі.**



**Алег Лысёнак,** МЭГА “Прырода і мы”

Заканчэнне.

*Пачатак у №№48 (869); 49 (870) за 1 і 8 снежня 2016 г.*

### Крулеўшчынскі сельскі выканаўчы камітэт

Створаны Крулеўшчынскі грамадскі экалагічны пост і школьны экалагічны атрад. Кіраўнік – Наталля Уладзіміраўна Рандарэвіч. Існая экалагічная сцежка будзе працягнута сіламі экалагічнага паста і школай.

У Крулеўшчынскай СШ усталявана адкрытая альтанка (навучальны клас) для правядзення заняткаў школьнікаў на прыродзе, а таксама дзве лаўкі.

### Параф’янаўскі сельскі выканаўчы камітэт

Створаны Параф’янаўскі грамадскі экалагічны пост і школьны экалагічны атрад. Кіраўнік – Вольга Ігнацьеўна Арлоўская. Школьным экалагічным атрадам патрулюецца экалагічная сцежка і рака Галядза. Праведзена грамадская экалагічная экспертыза р. Галядза. Перавышэнне фасфатаў зарэгістравана ў 3,4 раза.

Для правядзення экалагічных мерапрыемстваў са школьнымі экалагічнымі атрадамі Докшыцкага раёна ўсталявана сцэна ў в. Параф’янава.

### Сітцаўскі сельскі выканаўчы камітэт

Створаны Сітцаўскі грамадскі экалагічны пост і школьны экалагічны атрад. Кіраўнік – Валянціна Іванаўна Бляяўская.

Праведзена грамадская экалагічная экспертыза ракі Сэрвач побач в. М.Сітцы, дзе не было выяўлена ніякіх парушэнняў.

На паўвостраве насупраць старадаўняга парку “Сітцы” разабрана старая альтанка і ўсталявана новая адкрытая альтанка для правядзення заняткаў экалагічнага атрада і адпачынку мясцовага насельніцтва і турыстаў.

Створана экалагічная сцежка ад школы да старадаўняга парку “Сітцы”. Экалагічная сцежка праходзіць па ўсёй тэрыторыі старадаўняга парку. Для гэтых мэт выраблены стэнд з апісаннем парку і ўказальнікі “Экалагічная сцежка”.

### Тумілавіцкі сельскі выканаўчы камітэт

Створаны Тумілавіцкі грамадскі экалагічны пост і школьны экалагічны атрад у колькасці 12 чалавек. Кіраўнік – Марыя Іванаўна Трус.

Існая экалагічная сцежка, якая пачынаецца ў Тумілавіцкай школе, працягнута праз в. Дзедзіна (крыніца), Чарнічка-2 (крыніца), р. Бярэзіна, воз.Медзазол і завяршаецца зноў у школе.

У школьным садзе ўсталявана адкрытая альтанка для правядзення заняткаў са школьнікамі.

Так, як школа мае прысядзібны ўчастак і разводзіць жывёл (каровы, поні), то для гэтага ў школе ствараецца доследная лабараторыя па вырошчванні галегі ўсходняй, якая спрыяе павелічэнню надою. Эксперымент будзе праводзіцца сумесна з батанічным садам горада Мінска. Участак зямлі падрыхтаваны. Увесну будзе пасеў травы.

Мясцовая ініцыятыва “Развіццё патэнцыялу сельскіх тэрыторый Докшыцкага раёна” накіравана на рашэнне актуальных пытанняў і праблем Докшыцкага раёна. Падводзячы вынікі, хацелася б падкрэсліць, што пастаўленыя мэты дасягнутыя.



**Разборка старой альтанкі.**




## Капсулу з зямлёй з магілы Багдановіча заклалі ў храме з нагоды 125-годдзя з дня нараджэння паэта

Капсулу з зямлёй з магілы беларускага паэта Максіма Багдановіча заклалі сёння ў Храме-помніку ў гонар Усіх Святых у Мінску з нагоды 125-годдзя з дня нараджэння літаратара, перадае карэспандэнт БелТА. Цырымонія “Вяртанне” па закладцы капсулы з зямлёй з магілы паэта адбылася ў крыпце храма.

Намеснік прэм’ер-міністра Наталля Качанава зачытала прывітанне кіраўніка дзяржавы з нагоды 125-годдзя з дня нараджэння Максіма Багдановіча.

Як адзначыў міністр культуры Барыс Святлоў, цырымонія пахавання зямлі з магілы М. Багдановіча ў Ялце – сімвалічнае дзейства. Паэт завяшчаў быць пахаваным у Беларусі. “Узяцце зямлі з магілы паэта і пахаванне капсулы на радзіме – выкананне волі Максіма Багдановіча”, – сказаў міністр.

*Паводле БелТА.*

**Будынку Глыбоцкага дзяржаўнага занальнага архіва – больш за 100 гадоў. Яго гісторыя пачынаецца з 1900 года, калі была адведзеная зямля пад будаўніцтва казённага віннага склада. За стагоддзе ён тройчы мяняў свае функцыянальнае прызначэнне.**

# Тры гісторыі аднаго будынка



■ **Уладзімір Скрабатун**

Калі верыць старажылам і некаторым задакументаваным у краязнаўчай літаратуры фактам, тут былі багатыя запасы спірту. У верасні 1915-га, у часе наступлення немцаў з боку Паставаў у накірунку Полацка, – у Першую сусветную вайну – каб гэты важны інгрэдыент для вырабу пораху не трапіў ворагу, яго вырашылі знішчыць. Тысячы вёдраў спірту вылівалі ў канавы і студні. Аднак глыбоцкі народ не спаў у шапку – чэрпаў яго вёдрамі з розных брудных лужын. Была грандыёзная гарадская п’янка і мардабоі. Многія дзіву даваліся, як некалі мірнае і ціхае Глыбокае магло ў адначассе так здзічэць.

За “польскім часам” у гэтым будынку месціўся дзяржаўны шпіталь. Відавочна, што будынак быў замалы для павятовага горада. Ён абслугоўваў вялікую частку Дзісенскага павета (у павеце былі два шпіталі – у Глыбокім і Дзісне), а таксама Пастаўскі павет або яго частку. Ва ўсялякім разе, у хроніцы здарэнняў, калі пісалася пра бойкі ў Пастаўскім павеце, якія сканчваліся калецтвам, адзначалася, што пацярпелы быў дастаўлены ў глыбоцкі шпіталь. Таму мясцовыя ўлады вырашылі надбудаваць яшчэ адзін паверх. Працы доўжыліся два гады.

**«Kurjer Wileński»** №341 за 12 снежня 1937 года паведамляў:

**“Пасвячэнне шпіталя.** 5-га дня бягучага месяца ў Глыбокім адбылося пасвячэнне перабудаванага дзяржаўнага шпіталя і шпітальнай капліцы, а таксама новапабудаванай трупярні. Акт пасвячэння здзейсніў глыбоцкі дзекан кс. Антоні Зянкевіч у прысутнасці прадстаўнікоў уладаў і грамадскасці. Трэба зазначыць, што перабудова дзяржаўнага шпіталя ў Глыбокім доўжылася два гады. Перабудаваны цалкам партэр[1] і першы паверх, надбудаваны другі паверх. Перабудова здзейснена коштам 240 тыс. зл. Шпіталь разлічаны на 90 ложкаў”.

Усавецкія часы функцыянальнае прызначэнне будынка не змянілася – тут была Глыбоцкая цэнтральная раённая бальніца. Яшчэ да развалу СССР у Беразвеччы пачалося ўзвядзенне сучаснага бальнічнага комплексу, куды і пераехала потым раённая бальніца.

Трэба заўважыць, што за савецкім часам не была і перайменаваная вуліца Шпітальная, што вельмі рэдкая з’ява. Зрэшты, не перайменавалі і вуліцу Прамысловую (Пшэмысловую), на якую выходзіць фасадам будынак.

З пераездам Цэнтральнай раённай бальніцы ў Беразвечча вызваліўся досыць вялікі будынак для Глыбоцкага дзяржаўнага занальнага архіва, які датуль месціўся ў царкоўных памяшканнях, так званым былым алькежы, у меркаванай частцы замка роду Корсакаў. Атрымалася выдатная ракіроўка: бальніца пераехала ў сучасны будынак, царква атрымала дадатковыя памяшканні, а архіў здабыў вялікі будынак для захоўвання нашай гісторыі.

**Тлумачэнне:**

**1.** Так у тэксце. У польскай версіі, як тады, так і цяпер, 1-ы паверх – партэр. Г.зн. , калі надбудавалі 2-гі паверх, то ў беларускай версіі – 3-ці.

# Людміла Ардынская: Я дзякую ўсім тром маім радзімам...

**На пачатку снежня паэтка з вёскі Радзюкі, што ў Шаркоўшчынскім раёне, і наш пастаянны аўтар Людміла Ардынская адзначыла свой сямідзесяцігадовы юбілей.**

**Мы віншуем яе з гэтай датай, жадаем ёй моцнага здароўя і новых творчых поспехаў. Прапануем чытачам нашу размову з Людмілай Іосіфаўнай.**

**■ Зміцер Лупач**

## Вершы я пачала пісаць яшчэ ў школе

**– Вы пачалі пісаць ужо ў сталым узросце, як так сталася, што Вы палюбілі паэзію?**

– Гэта памылковае меркаванне, не ведаю, адкуль гэта ўзялося. Я пачынала пісаць яшчэ ў школе, у старэйшых класах, калі вучылася ў Глыбоцкай сярэдняй школе №2. Маімі любімымі прадметамі былі мовы, гісторыя... Я - гуманітарыя, матэматыка, фізіка, хімія мне даваліся цяжэй.

Я нікому не паказвала свае вершы, акрамя сваёй лепшай сяброўкі Людмілы Яршовай, у замужжы Забродскай. Ёй я потым прысвяціла кнігу "Сполохи-зарницы".

У школе мой талент не быў заўважаны, у нас не было літаратурнага гуртка, але вось мае сачыненні, асабліва па беларускай мове, вельмі хвалілі.

Нават на выпускным экзамене па мовах нам можна было выбіраць мову сачынення, і я выбрала сачыненне на вольную тэму па беларускай мове. Яно было прысвечанае падзеям, якія адбываліся з нашым шматпакутным беларускім народам у часы Другой сусветнай вайны. Бо шмат маіх родных людзей, як з роду бацькі, так і з роду маці загінулі ў гады гэтай вайны.

Я потым напішу ў сваім вершы, які надрукуе часопіс "Полымя" у 2015 годзе" "Вайна пусціла яго род на звод". Маецца на ўвазе род майго бацькі.

Потым я паступіла на філалагічны факультэт Мінскага педагагічнага інстытута. У нас была свая інстытуцкая газета, у якой змяшчалі творы студэнтаў. Але вершы свае паказаць каму-небудзь у той час я не асмелілася. Аж пакуль не пачала працаваць на Полацкай зямлі.

Мне тады было каля трыццаці год, і вось бацькоўская зямля натхніла мяне на напісанне верша. І ў 1977 годзе ў полацкай раённай газеце выйшаў у друк мой першы верш "Зялёнка", які быў прысвечаны вёсцы, дзе я працавала.

А потым у маёй творчасці быў вялікі перапынак, аж да той пары, калі я не выйшла на пенсію. Таму, напэўна, і лічыцца, што я пачала пісаць у сталым узросце, хоць цікавасць, імкненне да паэзіі, да прыгожага слова былі ў мяне з ранняга дзяцінства.

## Любоў да мовы ў мяне на генным узроўні

**– Адкуль у Вас любоў да роднага слова?**

– Тут я хачу ўзгадаць добрым словам свайго бацьку. Ён нарадзіўся на Полаччыне, непадалёк ад мяжы з Расіяй. Ён быў сапраўдным беларусам, які любіў сваю мову. І калі мне прыйшлося ісці ў школу, у першы клас, бацька спытаўся: "У які, дачка, клас пойдзеш, у беларускі ці рускі?" Ён не навязваў мне мову навучання, а спытаў маё меркаванне, як у дарослай. А я тады сябравала з дзяўчынкамі, бацькі якіх былі накіраваныя сюды на працу ў міліцыю, пракуратуру, усе яны, вядома, былі людзі рускамоўныя. Таму я і вырашыла тады вучыцца ў рускай школе. Але любоў да роднай мовы ў мяне засталася і жыве ў ва мне і зараз. Бо мова родная ў нас адна, як і маці, як справядліва адзначыў наш паэт Алесь Бачыла.

Любоў да мовы ў мяне на генным узроўні. Бо я дачка свайго народа. Можна ведаць розныя мовы: і польскую, і нямецкую, і рускую, і англійскую, але на роднай мове лепш думаецца, лепш пішацца. І я думаю, на гэта спадзяюся, што нашы людзі прыдуць у рэшце да гэтай высновы.

## Я ўдзячная свайму настаўніку нямецкай мовы

**– Мне вядома, што Вы не толькі беларускую мову добра ведаеце, але яшчэ і перакладаеце на нямецкую мову.**

– Так, перакладаю. Праўда, усё ж больш часу ў мяне займае мая літаратурная творчасць. Але нядаўна я пераклала верш нашага паэта Міледзія Кукуця "Лілея" на нямецкую мову. Гэта вельмі прыгожы яго верш. Праўда, у мяне не было часу паведаміць пра гэта аўтару, але, думаю, у бліжэйшы час ён пазнаёміцца з маім перакладам.

**– Я ведаю, што вы перакладалі беларускія вершы на нямецкую мову для адной выставы.**

– Так, я перакладала па просьбе маёй знаёмай, Людмілы Лабачэўскай. Там, праўда, былі не вялікія вершы, а чатырохрадкоўі, прысвечаныя нашай беларускай прыродзе, нашаму азёрнаму краю. Я свае пераклады прадстаўляла на рэцэнзію настаўніцы нямецкай мовы Брэхун Ліліі Рышардаўне. Я ўлічыла яе заўвагі, якіх, праўда, было мала.

**– А адкуль такое добрае веданне гэтай мовы?**

– У мяне з дзяцінства была цікавасць да гэтай мовы. І ў школе ў мяне быў добры настаўнік. Я думаю, у Глыбокім памятаюць яго імя – Аркадзь Міхайлавіч Шкобаў. Ён прыйшоў да нас з інстытута, калі я перайшла ў пяты клас, і вучыў гэтай мове. Вучыў вельмі добра, А потым я яшчэ два гады вывучала яе ў інстытуце. Думаю, што ў мяне ўсё ж ёсць прыродны талент да ведання моваў.

Праўда, польскую мову ў мяне не хапіла часу вывучыць як належыць, але я свабодна чытаю на гэтай мове.

## Краязнаўствам зацікавілася дзякуючы "Вольнаму Глыбокаму"

**– Вы вядомая як паэтка. Але чытачы "Вольнага Глыбокага" ведаюць Вас таксама як краязнаўцу. Цікавасць да гэтага таксама з дзяцінства?**

– Не, гэта не з дзяцінства. Як я ўжо пісала на старонках газеты, я вучылася ў савецкай школе, а там увагі краязнаўству не ўдзялялася. Тады была вялікая краіна, Савецкі Саюз, і мы больш ведалі пра Кіеўскае княства, пра Маскву, але толькі не пра сваю гісторыю, гісторыю сваіх родных мясцін.

Цікавасць да краязнаўства ўзнікла ў мяне значна пазней, можна сказаць, запозненa. Штуршком да гэтага паслужыў прыезд на радзіму нашчадкаў знакамітага шляхецкага роду Бароўскіх.

Язацікавіласяіхгісторыяй і з дапамогай Уладзіміра Скрабатуна атрымалася багатая публікацыя пра род Бароўскіх. Падчас іх новых прыездаў у Радзюкі я даведвалася нешта новае пра іх род і працягвала свае публікацыі. Яны даслалі мне здымкі маёнтка: як ён выглядаў да вайны.

Я даведалася, што ў Новым Пагосце знаходзіцца магіла аднаго з нашчадкаў Бароўскіх, Севярына Бароўскага. Ён быў адміралам, удзельнічаў у руска-японскай вайне.

У Каўшэлеве мне дапамаглі знайсці звесткі пра маёнтак, у якім дажываў свой век адмірал Севярын Бароўскі. Ён памёр яшчэ да пачатку вайны, у 1935 годзе. Таму хачу падрыхтаваць яшчэ адну публікацыю пра гэтага чалавека.

Я цікаўлюся гісторыяй свайго краю, але гэта не з'яўляецца для мяне галоўным. Асноўнае для мяне ўсё ж літаратурная творчасць.




Людміла Ардынская на прэзентацыі "Белага Бусла". *Фота Сяргея Райчонка*

## Забыцца на родную мову недапушчальна

– Нядаўна ў Шаркоўшчынскай дзіцячай бібліятэцы адбылася прэзентацыя Вашай дзіцячай кніжкі "Белы бусел". А для дзяцей даўно пішаце ці гэта першы такі твор?

– Я вырашыла зрабіць дзіцячую кнігу назіраючы за тым, як нашы маленькія чытачы цягнуцца больш да рускай мовы. І не толькі яны, але і тыя, хто дайшоў да адзінаццатага класа, не ведаюць беларускай мовы, не цікавяцца ёй. Я ведаю, што ёсць дзецi, якія цікавяцца роднай мовай, хай яны мяне прабачаць, але гэтых дзяцей няшмат. На жаль.

Вось я і падумала, што дзяцей да сваёй роднай мовы трэба прывучаць з самага ранняга дзяцінства, з трохгадовага ўзросту, а можа нават і раней. Мова павінна гучаць у дзіцячым садку, у школе, у сям'і... Бо зараз нават можна і забыцца на сваю родную мову, а гэта недапушчальна ні ў якім разе.

Вось і стварылася такая кніжка, дзе ёсць апавяданні, казкі і вершы як для дзяцей малодшага ўзросту, так і для сярэдняга і старэйшага ўзростаў.

Праўда, самой кнігі яшчэ няма, створаны толькі яе макет. Але гэта ўжо выклікала інтарэс у супрацоўнікаў дзіцячай бібліятэкі.

Была праведзеная прэзентацыя, дзеткі намалявалі нават дваццаць малюнкаў. Гэта персанажы маіх двух твораў – казкі "Зайчыкавы сябры" і апавяданне "Анёл-ахоўнік".

Гэтыя малюнкі я планую ўключыць у сваю кнігу, калі мне ўдасца яе выдаць.

Водгукі на яе я атрымала вельмі станоўчыя, гэта кніга вучыць дзяцей любіць наш край, нашу родную прыроду, спрыяе выхаванню маральных якасцей у нашых маленькіх грамадзян. Хацелася б, каб яны раслі ў сем'ях, дзе гэтыя якасці б падтрымліваліся, і каб мае творы гэтаму спрыялі.

## Хацелася б знайсці спонсара для дзіцячай кніжкі

**– Вы нарадзіліся ў Глыбокім, Вашы бацькі з Полаччыны, зараз пражываеце ў Шаркаўшчынскім раёне. А што лічыце сваёй малой радзімай?**

– Усе тры: і Глыбоччыну, і Полаччыну, і Шаркоўшчыну. Пра гэта я напісала верш "Тры Радзімы".

**– І напаследак, апошняе, так мы мовіць, дзяжурнае пытанне пра Вашы далейшыя планы, можа, хутка выйдуць якія новыя кніжкі?**

– Хацелася б знайсці спонсараў, каб выдаць маю дзіцячую кніжку, бо на сваю пенсію я не магу гэта зрабіць.

Яшчэ хацелася б выдаць свае вершы і апавяданні пад агульнай назвай "Пад сузор'ем Стральца", бо я нарадзілася ў снежні. Такія планы, а там як Бог дасць.

**– Поспехаў вам!**

### Даведка

**Людміла Ардынская** (Людміла Іосіфаўна Шарпенка) нарадзілася ў 1946 годзе ў г. Глыбокае (цяпер у Віцебскай вобласці) у сям'і служачых.

У 1965 годзе скончыла Глыбоцкую СШ №2 і паступіла на філалагічны факультэт Мінскага педагагічнага інстытута імя Горкага.

У 1968 годзе пачала працаваць у Мішнявіцкай сярэдняй школе Шумілінскага раёна настаўніцай рускай мовы і літаратуры.

Пасля заканчэння Лужаснянскага сельскагаспадарчага тэхнікума працавала ў саўгасе "Зялёнка" на Полаччыне.

Паэтычную дзейнасць пачала дэбютам ў Полацкай раённай газеце, дзе ў 1977 годзе быў надрукаваны верш "Зялёнка".

З 1985 года працавала і зараз жыве ў в. Радзюкі Шаркоўшчынскага раёна.

Друкавалася ў раённым, абласным, рэспубліканскім друку, часопісах "Полымя", "Вожык".

Займаецца краязнаўствам і фальклорам, даследуе мясцовыя гаворкі краю. Піша публіцыстычныя артыкулы, спрабуе пяро ў літаратурнай крытыцы, займаецца перакладам рускамоўных вершаў на беларускую мову.

## Тры радзімы

Багатая, бо маю тры радзімы:
Дзядоў і прадзедаў – найпершая зямля.
Ёй бацька – Полацк, маці – Еўфрасіння.
Галінкай полацкага дрэва я ўзрасла.

Глыбоччына – там маці нарадзіла.
Ты –родны сэрцу, мой азёрны край.
Як бусляня, мяне ўзнімаў на крылы.
Ярчэйшых у небе зорак не шукай.

Прыдзісненшчына – трэцяя радзіма.
Ты мне, як маці, Шаркаўшчынская зямля.
У няйлепшы час лёс да цябе закінуў,
Мяне сагрэла, прытуліла, абняла.

Ёсць хлеб і дах, на вершы ты натхніла.
І боль, і радасці са мной перажыла.
Але я дзякую ўсім тром маім радзімам,
Што па іх сцежках я жыццё прайшла.

